


# БЕЛАРУСКІ

Не так даўно, у лютым 1959 года, у галяўнічым закутку беларускай сталіцы, дзе цвітуць кветкі і шумяць векавыя дрэвы мінскіх паркаў, вырас прыгожы будынак з купалам-дахам — Мінскі Дзяржаўны цырк. Гэта адзін з найбольшых і найлепшых цырковых будынкаў у Еўропе.



Урачыстая цырымон'я сустрэчы артыстаў з публікай, пасля якой пачынаюцца паказы.

Пад мелодыю песні аб Беларусі на арэну выходзяць у вышываных каляровых касцюмах артысты. Адбываецца цырымонія ўрачыстай сустрэчы артыстаў з публікай, затым пачынаюцца паказы.

Аляксандр Каралёў са сваёй дачкою Бэлай паказвае нумар, названы «Мармуровыя скульптуры». Ён поіць, корміць белага каня, прымушае яго быць зусім нерухомым. Восем год працаваў артыст над стварэннем гэтага рэдкага ў сусветнай практыцы цырковага нумара. Вось выходзяць на арэну маладыя акрабаткі Вера Хоменка, Люба Церахава, Ніна Багамолава, Люба Швіркава. Яны нядаўна вярнуліся з вялікай гастрольнай паездкі па Індыі. У іх незвычайная пластычнасць і дакладнасць рухаў. Заслужаны артыст Беларускай ССР Анатоль Вязаў выклікае зразумелае зацікаўленне. Ён разам са сваімі партнёрамі — дачкою Ляляй, жонкаю Тацянай і артыстам Уладзімірам Трыхіным паказвае арыгінальны і смелы палёт на вялікай вышыні.

Цяжка пералічыць усе нумары цырка — акрабатычныя фігуры, фокусы, гумарыстычныя сцэнкі, жанглерскія камбінацыі, ілюзіяністычныя паказы і т.п.

Беларускі цырк пабываў у многіх гарадах Савецкага Саюза, а таксама заграніцаю — у Польшчы, Румыніі, Англіі.

(СЯ)



Белы конь застыў нерухома, бы мармуровая скульптура






Маладыя акрабаткі.

Чарговы нумар цырка.

---

Цяпер у мяне крыху паяснела ў галаве. Значыць, усе гэтыя белыя з'явы, якія я бачыў ноччу і раніцай, тутэйшыя арыштанты, таварышы супольнай нядолі. Вось і я ўжо ў арыштанцкай вопратцы. Зліўся з шэрай масай другіх арыштантаў, стаў чалавекам без твару і прозвішча — проста арыштант. Няма для мяне ні суда, ні пракурора, ні пана і ўладара. Маім царом і богам з'яўляецца картуз-бярозаўскі ахраннік. Маё жыццё і мая смерць у яго руках.

Хай будзе пракляты той, хто так пастанавіў!

На роздум няма часу.

— Арыштаваны! — звяртаецца да мяне паліцай. Навучаны двума папярэднімі паліцаямі, выцягваюся на смірна. — Падпішы вось гэтую дэкларацыю, — гаворыць лагодным тонам і падсоўвае мне нейкую паперку.

— Якую дэкларацыю? — пытаюся насцярожана.

— Ат, нічога злога, не бойся. Разыходзіцца толькі пра тое, каб арыштаваны падпісаўся, што будзе вясці сябе спакойна, што хоча хадзіць на малебны, што..

— Не падпішу! — спыняю я яго

— Хай арыштаваны падпіша! — сычыць праз зубы паліцай. — Лепш будзе.

— Не падпішу!

— Гэта ж нічога злога... Усе падпісваюць, — маніць паліцай.

— Не! — кручу галавой.

Вяртаецца Маркоўскі.

— Ага, ужо гатоў,— сцвярджае, акінуўшы мяне позіркам. Я выцягваюся на смірна.

— Адмовіўся падпісаць дэкларацыю? Таак! — здзіўляецца Маркоўскі. — Зараз я гэтую дэкларацыю выпішу яму на яго ўласнай скуры!

Ведаю, што будзе... Яшчэ хвіліну... Стаю на смірна. І раптам — свіст і боль.

— Бягом назад у залу! — крычыць паліцай.

Прыцiскаю да боку ўвесь свой арыштанцкі пасаг і як магу найхутчэй імчуся вядомай ужо дарогай.

— Лажыся! — загадаў паліцай.

Не паспеў я яшчэ выканаць гэтага загаду, а ён ужо крычаў:

— Уставай! Бягом!

І зноў:

— Лажыся!

І зноў:

— Бег!

Я не ведаў адкуль браліся ў мяне сілы, але яшчэ знайшліся. Цяжка дыхаючы, я неяк дабраўся ў залу, дзе начаваў. Але Маркоўскі яшчэ не вычарпаў свайго рэпертуару. Ён толькі пачынаў «гульню».

---

**КНІЖКІ ДЛЯ ДОМА КУЛЬТУРЫ ІМЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА Ў ГАРАДКУ**

**Падарунак беларускага савецкага паэта Аляксея Пысіна з уласнаручнай дэдыкацыяй:**

**Аляксей Пысін — «Мае мерыдыяны» (лірыка).**

---

# СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫ ГУРТОК У ПІЛІПКАХ

**Доўга ішлі дыскусіі на тэму стварэння сельскагаспадарчага гуртка ў Піліпках Бельскага павета. Сяляне той вёскі доўга заставаліся пры сваёй філасофіі: «Пабачым, як іншыя вёскі гаспадараць, а тады і ў сябе створым». На наглядны ўрок доўга не трэба было чакаць. У суседніх вёсках Зубава, Сакі ці Пасынкі сельскагаспадарчыя гурткі пачалі хутка развівацца. Маюць яны па два трактары з камплектамі машын, малатарні. Трактары з гэтых вёсак выходзяць працаваць у іншыя вёскі толькі тады, калі ў сваёй вёсцы няма работы.**

**А піліпкаўскім гаспадарам гэта было не на руку. Не хацелі яны адставаць ад сваіх суседзяў. Калі на сходах даведваліся аб вялікіх даходах сельгасгурткоў — некаторых нават ахапляла зайздрасць. Нядзелямі людзі сыходзіліся і многа на гэту тэму гаварылі. Не адзін раз гэтую справу абмяркоўвалі партыйныя сходы. На добра справа дазрэла ў ліпені гэтага года. У сельгасгурток запісалася 25 асоб. Выбралі праўленне, у склад якога ўвайшлі лепшыя грамадскія дзеячы вёскі: Аляксандр Паўлючук, Сяргей Абрамюк, Павел Паўлючук, Іван Кураш і іншыя.**

**Ужо «кулко» зарэгістравана і мае правы на закуп сельскагаспадарчых машын. Пакуль што машын яшчэ не маюць. Некаторыя гаспадары нават пагаварваюць, што ўлады іх абманулі. Але гэта сведчыць толькі аб нецярплівасці. Трэба заўсёды мець на ўвазе, што «не адразу Кракаў пабудавалі». У перыяд жніў машыны былі раскуплены, а на новыя трэба пачакаць. Усё ж лепш пазней, як ніколі.**

**А. К.**



Плёскаўская вуліца на Спаса.

# ПЕСНІ ПЛЁСКАЎСКАГА СПАСА

Спас — свята амаль асенняе. Першыя апусцеўшыя іржышчы сабранай азіміны, разгар уборкі ярыны, першыя халаднейшыя ночы, першыя праявы набліжаючайся восені. Для спрацаваных летнімі намаганнямі сялянскіх рук Спас быў заўсёды карысным і патрэбным адпачынкам, якім сяляне ахвотна карысталіся. На Спаса, як ніколі, у многіх вёсках адбываліся бурныя фэсты. Грабарка, Заблудаў, Плёскі заўсёды прыцягвалі да сябе мноства людзей.

*

Журналісцкая цікавасць завяла мяне ў гэтым годзе на Спасаўскую ўрачыстасць у вёску Плёскі, што ў Бельскім павеце. У Плёсках тыповая для прыхадскіх фэстаў атмасфера: сотні людзей на вуліцы, а асабліва ля царквы і дзесятак гандляроў: цукеркі, дзіцячыя цацкі, — дробныя падаркі для дзяцей. Народ ляніва топчацца па распаленай жніўеньскім сонцам вуліцы, у невялікіх групках вядуцца марудныя, нецікавыя размовы, усе чакаюць на найважнейшае: на заканчэнне царкоўных богаслужэнняў і пачатак сямейных гасцін. Толькі тады ажываюцца твары, размовы набяруць дынамізму, жэсты стануцца больш рашучымі, і рытм жыцця прыспешыць свой кругаварот. Гэта аднак станецца крыху пазней. А пакуль што людзі ляніва топчуцца ў лянівым натоўпе, ляніва азіраюцца кругом, адны каб быць запрошанымі, іншыя каб выпаўніць свой абавязак і запрасіць гасцей у хату. Так трэба, так кажа стары звычай, адвечны этыкет фэсту. А гасцей тут многа; з суседніх вёсак: Войшкаў, Паўлаў, Рыбалаў, з гарадоў: Бельска і Беластока, а нават з «шырокага свету»: Варшавы, Лодзі ці Гданьска.

*

Вось і цяпер, за гасцінным сталом, за якім аказаўся ваш рэпарцёр, сядзяць побач гаспадар і гаспадыня — плёскаўскія сяляне, іх дачка-студэнтка, малады юнак — вайсковы ў адпуску і іншыя госці з рабочымі і інтэлігенцкімі прафесіямі, працуючыя на розных прадпрыемствах і ва ўстановах Беластока, родам з Плёскаў, з-пад Гарадка, з-пад Крынак, пераплятаюцца паміж сабою розныя дыялекты Беласточчыны.

Аднак гэты сялянска-работніцка-інтэлігенцка-вайсковы круг знойдзе супольную мову. За гэтую ноч перадыскутуюцца ў гэтым кругу ўсе асноўныя праблемы сучаснасці, перадыскутуюцца з жарам, са шчырасцю, з зацятасцю ў сваіх поглядах. А аб'ядное прысутных песня, якую заспяваюць усе: старыя і маладыя, тыя з вёскі і тыя з горада, заспяваюць пры тым дружна, на ўвесь голас, на ўсю сілу грудзей, так, каб шыбы ў вокнах зазвінелі. Бо толькі так спяваецца на вясковых урачыстасцях, бо толькі пры такіх песнях адчуваецца тут роскаш спявання. Думаю, што для гэтай голаснай, крыклівай песні многія і прыбываюць з далёкіх гарадоў пад сялянскую страху на Спасаўскую ўрачыстасць. Якая яна ў нашыя дні, гэтая песня? Які яе кшталт і настрой?

*

Пачынае разбаўлены гаспадар нейкай рускай баладай аб нейкім разбойніку. Ніхто аднак з прысутных не знае слоў рускай балады, не знае іх і сам гаспадар, спроба канчаецца няўдачай. Сапраўднае спяванне пачынаецца толькі тады, калі нехта пачаў добра ўсім вядомую ад дзяцінства: «Выпрагайтэ хлопці коні...»

Потым з гэтай жа ўпэўненасцю і роскашшу паўнагалосся ідуць народныя песні з часоў вайны: аб маці, якая плача над магілаю сына, аб капітане-герої і яго нявернай жонцы, ваенныя песні савецкіх кампазітараў і сучасная савецкая песня. У канцы прысутныя грымнулі вядомую беларускую песню «Алёна». Ды як гэта часта бывае, прысутным вядома толькі пачатак тэксту. Наймалодшая ўдзельніца ўрачыстасці Ніна хутка адшукоўвае аднак «Беларускі каляндар» за 1965 г. і «Алёна» канчаецца плаўна і ўпэўнена, як і «Выпрагайтэ хлопці коні».

«Стала ціха, ціха на ўсёй зямлі,
Па рацэ далёка ручнікі плылі».

Канстатую цікавую з'яву: у гэтым асяроддзі і ў гэтай сітуацыі ўпершыню паяўляецца песня на беларускай мове.

З гэтага ж календара прысутныя спяваюць: «Рідна маты моя». Песня аднак надрукавана ў календары на беларускай мове, што выразна не адпавядае спевакам і яны «на хаду» хутка тлумачаць яе з беларускай на ўкраінскую мову і спяваюць песню так, як яна вядомая ў народзе.

— Пашукай пра «Беласточчыну, зямельку родную», — гаворыць нехта з прысутных.

— О, о, гэта вельмі добрая песня, — падхоплівае нехта іншы.

Пошукі аднак не прыносяць жаданага выніку, так як у календары няма «Беласточчыны», і госці пачынаюць спяваць, як умеюць, перакручваючы словы:

«Пра Беласточчыну, зямельку родную»...

*

Сямейныя ўрачыстасці канчаюцца даволі позна. Дамінуе на іх атмасфера ўсходнеславянскай традыцыйнай песні, часам песні больш сучаснай, але ў традыцыйным стылі: песні лірычнай, чуллівай, песні-балады.

Сучаснасць авангардная, у «еўрапейскім» стылі пачынаецца на велізарным пляцу пасярэдзіне вёскі, дзе на ўзвышэнні размясціўся дасканалы аркестр з Боцькаў з двума саксафонамі і двума юнакамі спяваўшымі навейшыя польскія і сусветныя «шлягеры». Тут для адмены над усім дамінуе востры рытм «біг-біту» і густы туман пылу над сотняй танцуючых пар. Але што там пыл, калі добры аркестр рэжа твіста!

РЫГОР ПАЎЛЮК

Фота аўтар

Звонку вёска Плёскі на Спаса, як і штодзень, здаецца ціхай і спакойнай.



## Сенакос у жніво

**Івана Трафімюка з сям'ёю мы засталі ў гарачы час жніва пры сенакосе на лузе. Наша здзіўленне было тым большае, што ведаюць яго ў Кожыне як стараннага і добрага гаспадара.**

**Так і разгаварыліся. Аказалася, што Іван Трафімюк ужо кончыў жніво, а цяпер выкасіў траву, якую засеяў вясною. Пачалося гэта ад мінулага года, калі ў Кожыне каля 15-ці гаспадароў стварыла водную суполку. Восенню зааралі больш дваццаці гектараў лугоў, вясной засеялі, а цяпер ідзе ўборка сена.**

**— Дзядзька Іван, колькі збярэце цэнтнераў сена з аднаго гектара? — звярочваемся да свайго размоўцы.**

**— Ведаеце, што ўраджай вельмі добры. А і сена на корм — дасканалае. Думаю, што на гэтым возе будзе не менш 9-ці цэнтнераў, а з гектара мы сабралі па 5 вазоў, — адказвае стоячы пры возе сена І. Трафімюк.**

**Безумоўна, гэтыя лічбы заніжаныя. Па-мойму, тут сабрана з аднаго гектара 50 цэнтнераў сена. Гэта, як на кожынскія ўмовы, амаль рэкорд.**

**— Аднак, — гаворыць Трафімюк, — не ва ўсіх так урадзіла і, па-мойму, тут вінаваты малы вопыт гаспадароў. Пры пасеве травы найважнейшы час і парадак работ. Я і іншыя адразу пасля працы машын сеялі, выкарыстоўваючы пагоду. А іншыя адцягнулі. Пачаліся дажджы, і пры валкаванні вельмі бралася зямля да валу. Гэтым самым забралася лёпкае насенне травы.**

**Развітваемся з Іванам Трафімюком пераконаныя, што добрых і разумных гаспадароў усё больш на нашых вёсках.**

**А. К.**




Прыходзілася мне не раз размаўляць з жанчынамі на вёсцы аб тым, што дзеці не хочуць купацца. Проста цяжка нагаварыць дзіця да мыцця, трэба сілком пхаць у балею. А калі набліжаецца момант мыцця галавы — пачынаецца крык, што ўсе ўцякаюць з кухні. Чаму дзеці не любяць мыцця? Што рабіць? Зразумела, чаму. Дзеці маюць паабдзіраныя ногі, рукі, абветраныя далоні і шчокі. І калі дзіця сядзе ў воду, у якую маці для змякчэння насыпле парашка для мыцця бялізны, усе ранкі пачынаюць пячы. Купанне не дае адпачынку, прыемнасці, а толькі боль, пякучы боль. А калі маці пачынае мыліць галаву звычайным мылам, а што горшае — парашком, тады бедныя і вочкі, і носік баляць. І пачынаецца страшэнны плач. Як вось на гэтай фатаграфіі.



Каб купанне для дзіцяці сталася прыемнасцю, адпачынкам, гульнёю, пастарайцеся прымяніць новы спосаб мыцця. Для змякчэння вады купіце «Boraks», або парашок у бутылачцы «Velwetta», мыйце дзіця толькі мылам «Mydło dla dzieci», а галаву — шампонам «Bambi Szampon myje bez łez». Цана 12 зл., або шампон у парашку «Bobas», які каштуе толькі 1 зл. Абкруціце дзіця купальнай простыняй і пакладзіце на некалькі мінут у ложак, каб яно адпачыла і высахла. І толькі тады апранайце піжаму. На заканчэнне трэба памазаць шчокі, ручкі і ножкі «Oliwką dla dzieci» для змякчэння скуры. Вельмі добрым з'яўляецца крэм «Linomag» на ўсялякія абветранні і лішаі.

Гляньце вось на гэты здымак. Ці для гэтага дзіцяці купанне з'яўляецца прыкрасцю? Не. Для яго мыццё — гэта прыемнасць, адпачынак, гэта гульня.



АКСІННЯ

## Літоўскі калектыў сярод беларусаў

(Працяг са стар. 2)

«Дэйна апе Нямуна». Што гэта песня аб блізкім і родным і беларусам Нёмане, нікому не трэба было тлумачыць.

Доўгімі незмаўкаючымі апладысментамі прысутныя сустракалі танцавальную групу і ў яе выкананні чатыры танцы: «Кепурыне» (Шапачнік), «Трыс мяргялес» (Тры паненкі), «Абрусілес» (Ручнічок) і захапляючы «Садутэ» — вясельны танец, у якім прыгожая літоўка развітваецца са сваімі сяброўкамі.

«Дзукія» ад'ехала дамоў. Кожны з яе членаў вярнуўся да сваёй штодзённай працы. Але ў нашых сэрцах яны пакінулі аб сабе многа добрага і ветлівага, пакінулі частку багатай і прыгожай сваёй культуры.

А. КАРПЮК

фота аўтара

